*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 14(348) 15 КРАСАВІКА 1998 г.**

## ХРЫСТОС УВАСКРОС



Празрыста, прасветла
у паветры наўкола,
Бы крылы мільгаюць
нябесных анёлаў...
Устань, беларус, глянь
у вочы Нябёс —
**Хрыстос Уваскрос,**
**Хрыстос Уваскрос!**

Ты волю прыняў,
як дарунак ад Бога,
Прачніся — уваскрэсні,
крoч вольнай дарогай...
Устань, беларус,
глянь у вочы Нябёс —
**Хрыстос Уваскрос,**
**Хрыстос Уваскрос !**

З крыжа ты ўжо
зняты сваімі рукамі,
Прачніся — уваскрэсні,
вярніся ў Памяць ...
Устань, беларус,
глянь у вочы Нябёс —
**Хрыстос Уваскрос,**
**Хрыстос Уваскрос !**

Ты чуеш, як рэкі
шумяць крыгаломна ?
Прачніся — уваскрэсні
у краіне свабоднай...
Устань, беларус,
глянь у вочы Нябёс —
**Хрыстос Уваскрос,**
**Ён — Дух твой і Лёс !**

***Уладзімір Пецюкевіч***

## Сойм БНФ "Адраджэньне" дбае пра беларускую мову

11 красавіка ў Менску адбыўся чарговы Сойм БНФ "Адраджэньне". Сойм разгледзеў стратэгічныя задачы Фронту і ў прыватнасці пазіцыю БНФ па ўдзелу ў магчымых выбарах і прыняў адпаведную заяву. Сойм прыняў заявы супраць адмены шэрагу святочных дзён, супраць палітычных рэпрэсій, а таксама ўхвалу "Марыянеткавы "нацыянальны сход" збіраецца нішчыць беларускую мову". Тэкст ухвалы будзе надрукаваны ў наступным нумары.

## Брацтва кліча

У сакавіку бягучага года ў Менску стварыўся арганізацыйны камітэт па стварэнні Брацтва імя Князя Канстанціна Астрожскага. Імя гэтага славутага беларуса — прыклад для нас, яго нашчадкаў. Брацтва мае на мэце выдавецкую дзейнасць, прапаганду гістарычных ведаў, хрысціянскай маралі, нацыянальнай культуры.

Усіх неабыякавых да гэтых высакародных ідэяў запрашаем пісаць на адрас: ***Менск 220131, а/с 408 "Брацтва".***

**"... каб не ўмёрлі ! "**
**Францішак Багушэвіч**

**Конкурс сачыненняў — лістоў.**

## "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай"

Амаль сто гадоў таму назад Францішак Багушэвіч звярнуўся да паняволенага беларускага народа з вершамі на яго мове, з палымянымі словамі: "... мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая... Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам... Яно добра, а, нават, і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю... Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі ! ..."

Пастарайцеся і вы, дзеці, знайсці пераканаўчыя словы ў абарону роднай мовы і звярніцеся з імі да каго пажадаеце (сваіх бацькой, знаёмых ці, увогуле, любых начальнікаў і г.д.). Запрашаем да конкурсу вучняў 4-11 класаў. Дзеля выяўлення вашых пачуццяў аб'ём сачынення -ліста не абмяжоўваецца. Можна даць яму назву ці ўказаць адрасат, напісаць прозай ці вершам, у форме малітвы ці заклікання, заклiку ці просьбы. Жадаем вам смеласці і творчасці, натхнення і вынаходлівасці.

Той, хто пажадае аформіць творчую работу хутчэй, увойдзе ў лік удзельнікаў 1-га конкурсу, вынікі якога будуць падведзены 1 чэрвеня, а 2 -га конкурсу — 14 верасня 1998 г. Пераможцы атрымаюць граматы, ільготныя пуцёўкі ў лагеры адпачынку, у тым ліку ў Балгарыю і Чэхію ( з 03.09. па 03.10, з 03.11 па 30.12.98г.), кнігі з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў і літаратараў, іншыя падарункі. Узнагароды атрымаюць і самыя актыўныя настаўнікі. Найбольш цікавыя работы будуць надрукаваны ў часопісах і газетах.

Прысылайце свае лісты з указаннем прозвішча і імя свайго і свайго настаўніка, класа і школы, дакладнага адрасу і тэлефона на адрас: ТБШ, Някрасава, 5а, Мінск, 220040. Тэлефон для даведак: (017) 232 47 01.

***Таварыства беларускай школы***

## Сцяблінка на лязе

Дваццаць дзевятага сакавіка адбылася прэзентацыя зборніка паэзіі "Сцяблінка на лязе" нашай палацкай, маладой паэтэсы Ірыны Дарафейчук. Узлёт паэзіі дзевятнаццатага пачатку дваццатага стагоддзя. У кожнага вялікага паэта свой шлях свае крэда. Цётка пісала свой "Хрэст на свабоду". У Максіма Багдановіча :

***"Рушымся брацця хутчэй,***
***У бой з жыццём пакідаючы жах.***
***Крыкі пуглівых людзей***
***Не стрымаюць хай бітвы размах".***

Ларыса Геніюш :

***"Воля ня тое, што вольны ты скажуць.***
***Змяняць на рэдкую крату густую.***
***Воля то воля, што сэрцам адчую".***

У Навума Гальпяровіча ёсць "Востраў Душы". "Крык" Васіля Супруна разарваў затхлую цішыню застойных гадоў, гадоў ліхалецця. Здавалася б, што яшчэ можна дадаць, якую новую "грань" адкрыць. Аказваецца можна, бо паэзія гэта такая глыбокая крыніца, з якой можна чэрпаць бясконца. Ірына Дарафейчук знаходзіць свой шлях, сваё крэда ў паэзіі.

Бачыце, яна "Сцяблінка на лязе". Яна балюча ўсё ўспрымае. Для яе лязо нажа - гэта ўсе тыя хібы, ад якіх пакутуе наша грамадства, наш народ. Нарэшце яна кажа:

***"Усё роўна. Расцвіту, нібы ўбяруся ў бель.***
***Ну вось ён і прыйшоў, апошні зорны час, —***
***Я прыхінуся да ляза твайго нажа ...***
***Ну, што ж ты ? Рэж. Салодка гінуць для цябе".***

Ірыне Дарафейчук салодка гінуць за праўду, за шчасце, за лепшую долю для свайго гаротнага народа. Але ж гінуць не трэба. Доўга, доўга яшчэ трэба жыць, стаяць за праўду і перамагаць, таму і ноткі аптымізму ў яе выразныя:

***"Усё роўна. Расцвіту, нібы ўбяруся ў бель."***

"Зорны час" у яе яшчэ наперадзе. Дык поспехаў Табе, дарагая наша Ірыначка, удач і добрага натхнення.

***Полацк. Леў Бялевіч.***

## Беларускія СМІ пра беларускую мову

***Агляд і каментары Язэпа Палубяткі***

**"Моваведы" пачынаюць атаку.**

Нашыя моваведы даўно заслужылі рэпутацыю не спецыялістаў па мове, а палітыкаў, якія дазволілі знявечыць моўныя правілы. І заўсёды можна было дзівіцца тым адкрытым выкрунтасам, якія дапускаліся ў нашым правапісанні, прыціснутым да зямлі непрыхаваным культам і ідэалогіяй.

... Родную мову раздушылі на вачах, а ўладнікі прабіваюць для сябе новыя інтрыгуючыя формы правапісу.

***Валянцін Смалянка***
***Народная воля 27.03.98г.***

Мова — душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры. Жыве мова — жыве народ, жыве памяць продкаў. І сёння гонар і абавязак усіх нас шанаваць родную мову, пашыраць свае веды ў галіне мовазнаўства.

***В.Коршун.***
***"Зара Над Нёманам" 18.03.98г.***

26 студзеня споўнілая восем гадоў з моманту прыняцця ў нашай краіне Закона аб мовах. Большасць яго артыкулаў, акрамя 10 з 36, што налічвае гэты дакумент, да гэтага часу павінны былі ўжо дзейнічаць. Закон, прыняты цалкам камуністычным Вярхоўным Саветам 11-га склікання Беларускай ССР, ніякім чынам не быў скіраваны на рускае грамадства і адначасова забяспечваў свабоднае развіццё рускай мовы. Яшчэ і трох гадоў не мінула пасля сумнаведомага рэферэндуму, але ўжо добра відаць, як нахабна падманулі наш народ.

***Уладзімір Шык, Паставы***
***"Народная воля" 19.03.98г.***

... Адзінае, што рэзала слых, — гэта кепскае валоданне беларускай мовай (выключэнне — М.Статкевіч і П.Знавец).
( Аб выступоўцах на мітынгу ў Дзень Канстытуцыі).

***"ЛІМ" 20.03.98г.***
***Вадзім Даўнар***

Шматгадовая каланізацыя і русіфікацыя нанесла глыбокія раны беларускаму арганізму, ледзь не цалкам адбіла ў людзей гістарычную памяць, адвучыла многіх з іх — прычым самых адукаваных — ад роднай мовы.

***Е.Андрэева, Л.Лыч.***
***ЛІМ 20.03.98г.***



**КАФЕДРЫ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ І БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ГОМЕЛЬСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ**

**ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА !**

Запрашаем Вас да ўдзелу ў правядзенні Міжнароднай навукова-метадычнай канферэнцыі.

**"Перспектывы развіцця і функцыянавання нарматыўнай лексікі",**

якая адбудзецца 22-24 мая 1998 года на філалагічным факультэце Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны.

**Для абмеркавання прапануюцца наступныя праблемы:**

* Накірункі развіцця і стан нацыянальнай тэрміналогіі.
* Праблемы нармалізацыі асобных лексічных адзінак.
* Асаблівасці функцыянавання нарматыўнай лексікі ў вуснай і пісьмовай мове.
* Праблемы выкарыстання беларускай тэрміналогіі пры выкладанні нефілалагічных дысцыплінаў.

Тэзісы дакладаў аб'ёмам не болей 4-х старонак машынапісу, надрукаваныя праз 2 інтарвалы можна дасылаць або прывезці з сабою, паведаміўшы да 30 красавіка 1998 года тэму выступлення на адрас:
246699, Гомель, вуліца Савецкая, 108, ГДУ
імя Ф.Скарыны,
кафедра беларускай культуры, Яршовай Н.Я.
тэл. 56-32-73 (кафедра беларускай культуры),
56-42-47 (хатні тэл.Паўлаўца Д.Д., з 18-00 да 21-00 у аўторак,сераду).

Да тэзісаў дадаюцца звесткі пра аўтара з указаннем месца працы, пасады і адраса.
Матэрыялы будуць надрукаваныя пасля канферэнцыі.
Усе выдаткі за кошт камандзіраваных.





# Ускормленыя ўладай

## Эцюды аднаго пікета

На пікеце да мяне падышла адна жанчына, якая заявіла, што ў іх школе, у Слоніме, быццам, прапанавалі выкладанне на беларускай мове, але бацькі адмовіліся. І як бы ў доказ дадала, падкрэсліваючы праўдзівасць яе заўвагі, што працуе настаўніцай. Па яе незадаволенаму выгляду было бачна, як жанчына ставіцца да пікетчыкаў і да зместу тэкстаў на плакатах. Я пачаў тлумачыць, што ў Слоніме шмат вайсковых частак, дзе асноўны кантынгент мясцовай інтэлігенцыі з сем'яў вайскоўцаў, якія ў большасці сваёй, паходзяць з Расеі і таму яны не зацікаўлены ў вывучэнні беларускай мовы.

Уважліва слухаючы жанчыну і прыглядаючыся да яе твару, спытаў:

— Адкуль вы самі ?

Тут субяседніца раптоўна змянілася ў твары. Было бачна, што гэтае пытанне збянтэжыла яе.

— З Расеі. Ну і што ? Затое мой муж беларус і ён займаўся размінаваннем па ўсёй Беларусі.

— Шаноўная спадарыня, Пры чым тут заслугі вашага мужа ? Справа ў тым, што цывілізаваны чалавек павінен не толькі дабрасумленна працаваць, але і абавязан шанаваць, любіць і вывучаць сваю родную мову. Дарэчы, а кім ён працуе ? — зноў запытаўся я.

— Ён загадчык аддзела кадраў.

Для мяне стала ўсё ясна. Гэтая жанчына была на баку прадстаўнікоў "славутай" наменклатуры, якую ў свой час выхаваў камуністычны рэжым. Звычайна, на такую пасаду накіроўвалі адстаўнікоў і зацятых камуністаў. А іх адносіны да ўсяго беларускага, вядома, адмоўныя.

Я прапанаваў жанчыне:

— Калі вы лічыце, што быццам народ сам не хоча вывучаць сваёй мовы, а вы так у ёй зацікаўлены, то парайце свайму мужу толькі адзін дзень на працы паразмаўляць па беларуску. Ці доўга ён пратрымаецца на сваёй пасадзе ?

Тут субяседніца ў момант уз'юшылася. Яна адскочыла ў бок і закрычала:

— Нікому не трэба вашая мова ! Шукаеце смажаных фактаў. Вам бы толькі паміцінгаваць.

З гэтымі словамі яна знікла ў натоўпе. Так, відавочна, такім людзям, ускормленым старым рэжымам не трэба беларускай мовы. Ім дарвацца бы да якой-небудзь пасады, атрымаць свой хлеб з маслам, а да культуры ім усё роўна, таму што адстойваць беларускую мову вельмі небяспечна — можна пазбавіцца і кавалка хлеба.

### Як дапамагчы пікету?

Адна з жанчын спытала:

— Я, напрыклад, падтрымліваю вашую акцыю па ратаванню беларускай мовы. Мая дачка вывучае мову ва універсітэце. А як мне пасадзейнічаць нашай мове ? Чым я магу дапамагчы ?

-- Прыміце ўдзел у нашым пікеце. Станьце побач з намі і раскажыце людзям праўду аб становішчы нашай мовы ў вышэйшай навучальнай установе.



### "Ахоўнікі пікету"

З першага дня пікету, калі мы збіраемся на адведзеным месцы, ў праёме прахода, які злучае плошчу Незалежнасці з завулкам Ленінградскім, хвілін за дзесяць пад'язджае міліцэйскі "козлік" зялёнага колеру з вокнамі ўзмоцненымі кратамі. Вадзіцель становіць машыну ў куточку завулка, каб не вельмі кідалася гэтая "з'ява" ў вочы людзям. Але з патаемнага прыцішша добра бачны ўсе пікетчыкі. Сама машына вельмі спадручная для перавозкі затрыманых у пастарунак. Вокны зацеменны і чужое вока не ўбачыць ні колькасці пасажыраў, ні іх тварау. З яе звычайна выходзяць два ці тры "амапаўцы" у блакітнай камуфляжнай форме абвешаныя поўным камплектам устрашальнага інвентару: наручнікамі, гумавымі палкамі, газавымі балончыкамі і пісталетамі. Такое ўражанне, што яны падрыхтаваліся для правядзення сур'ёзнай акцыі і затрымання крымінальнага ўзброенага элементу.

Ахова тэрыторыі плошчы Незалежнасці настолькі шчыльная, што ў першы дзень пікета пад'ехаў яшчэ адзін такі ж "козлік", з якога шустра выскачыў малады сяржант, апрануты ў камуфляжную форму. Ён, верагодна, не ведаў аб дазволе правядзення пікету, падбег да нас і з нейкай уз'юшанасцю запытаў:

— Што гэта за зборышча? А ну-ка,разыходзьцеся!

Ці ён не ўбачыў у глыбіні завулка міліцэйскую машыну, ці гэта была зроблена спецыяльна, каб праверыць нашую трываласць, невядома. Але вельмі непрыемна было глядзець на маладога хлопца, які паказваў сваю стараннасць да службы і размаўляў з людзьмі ў даволі грубай форме. З другога боку выглядаў ён вельмі камічна: гэтакі марыянеткавы ўнтэр-прышыбееў. Падбягаў то да адных пікетчыкаў, то да другіх і ,як задзірысты пеўнік, ухапіўшыся за гумавую палку, усё дапытваў людзей:

— Хто дазволіў ? Разыходзьцеся !

Урэшце-рэшт яго супакоілі, растлумачылі, як след, і паказалі ў бок машыны з міліцыянтамі ў глыбіні завулку. Пасля гэтага ён неяк збянтэжана стаў пачухваць сваю пастрыжаную патыліцу, потым некалькі хвілін як-быццам нешта раздумваў і паволі, ціхенька знік.

Кожны дзень камандаваў гэтай "блакітнай" камандай нехта з міліцэйскіх чыноў, звычайна ў рангу не ніжэй за маёра. У іх абавязак уваходзіла ўважлівае перапісванне тэкстаў плакатаў. Яны сачылі каб пікетчыкі не выходзілі за межы завулак на плошчу Незалежнасці. Асабліва турбавалі іх спробы пікетчыкаў выйсці бліжэй да людзей, дзе натоўп шырокай плынню ішоў з дзвярэй метро да аўтобусаў. Пікетчыкі знайходзіліся на лесвіцы, якая вяла ад плошчы да правулка Ленінградскага, і з-за гэтага не было бачна плакатаў, таму і стараліся падняцца наверх і прыблізіцца да пешаходаў.

Запомніўся адзін маёр. Нейкі пікетчык выйшаў з-пад аркі і трошкі заступіў на асфальт, мяжу пікета. Тут жа да яго кінуўся гэты чын. Ён пачаў крычаць так, быццам перад ім знаходзіўся яго падначалены, і сціснуўшы свае кулакі з напружаным ад такога старання тварам наскокваў на пікетчыка. У той халодны вясенні дзень ішоў дождж і маёр, відаць, вырашыў выгнаць усіх з-пад аркі ў правулак, даказваючы, што пікет стаіць не на сваім месцы. Па твару было бачна, што гэтая ідэя цешыла міліцыянта. Але сустрэўшы дружны адпор з боку пікетчыкаў і старшага пікету, якія даказалі правільнасць іх размяшчэння, маёр адмовіўся ад сваёй задумкі і з рашуча-насцярожаным выглядам стаў прахажвацца па мяжы паміж плошчай Незалежнасці і правулкам.

Нарэшце, я дастаў сваю гітару, трошкі размяў пальцы і пачаў спяваць сваю песню на словы Янкі Купалы "Над Айчызнай". Народу было многа, у паветры стаяў гул ад размовы людзей і матораў транспарту. Прыйшлося пець гучна, але словы мае не былі чутныя і я перайшоў на гучную дэкламацыю, каб не сарваць галасавых звязак. Я увесь час назіраў за маёрам. Бачу, што ён падыйшоў да старшага нашага пікету і стаў нешта яму рэзка выгаварваць. Калі я закончыў песню, мне паведамілі, што маёр забараніў пець. Цікавыя тлумачэнні гэтага міліцыянта. Па яго словах, ён меў права забараніць усё тое, што яму будзе не да спадобы. І калі гэты маёр падыйшоў да мяне, то на маё пытанне аб тым, што будзе, калі я працягну пець, адказаў, што забярэ мяне ў пастарунак. Вось як у нас трактуюцца правы якім-небудзь міліцэйскім чынам. Захоча забараніць — забароніць, захоча пасадзіць у пастарунак — пасадзіць.

*Пётр Русаў, г. Менск*

## Невуцтва Сяргея Залытіна, або з чыйго языка пяе рускі пісьменнік ?!...

*Як толькі спатыкнешся з невуцтвам, з дурнотай, грубасцю, нападай на іх безупынна, не ведай адпачынку, пакуль ты жывы... нанесі ім удар за ўдарам.*

***Томас Карлейль (1795-1881) — англійскі філосаф, гісторык, публіцыст.***

На абанеменце Баранавіцкай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя паэта Валянціна Таўлая добра ведаюць мае звычкі. Сярод адабраных мною кніг яны — бібліятэкаркі — калі-нікалі мне даюць выданні і на свой густ. На гэты раз жанчына запісала "Новый мир" № 12 -1993 год. Я яго пагартаў і вырашыўшы, што і гэтага дастаткова, адклаў часопіс убок, але ён неяк зачапіўся за вугал стала і адкрыўся на старонцы 83. І чыста інстыктыўна ўбачыў там друкаванне пра родную краіну. Гэта быў "Экалагічны раман" Сяргея Залыгіна. Ён жа і галоўны рэдактар гэтага часопіса.

Падкрэсліваю год выдання - 1993. А зараз раблю вытрымку з гэтай старонкі: "Припять соединена Днепровско-Бугским каналом с рекою Западный Буг и далее польской Вислой, а канал Огинский связывал её с литовским Неманом". Вось як ! А зараз растлумачу. Гэта аксіёма, што Волга ўпадае ў Каспійскае мора (Дакладней, у возера.-М.М.). Як і тое, што найбольшай ракой дзяржавы з'яўляецца тая водная артэрыя, адкуль яе вытокі, дык, вядома, Нёман цячэ ў свет з Беларусі па Менскай і Гарадзенскай абласцях. І найбольш апеты Нёман на Беларусі. Раней Нёман, Нямунас, Мемель у розныя часы цёк у межах Літоўскай Русі і Прусіі; потым той жа Русі (Беларусі), Рэчы Паспалітай і Германіі; Беларусі, Летувы, Германіі; зараз Беларусі, Летувы і Расеі. Дык чыя ж рака Нёман па Сяргею Залыгіну? І вось такое невуцтва вядомага пісьменніка , канешне, дзівіць і насцярожвае...

Чытаем далей (стар.84): "Припятские земли за последние несколько веков под кем только не пабывали - под украинцами, белорусами, русскими, литовцами, поляками, немцами". Што тутака запярэчыць ? За апошнія некалькі стагоддзяў прыпяцкія землі ніколі пад летувісамі не былі, па-праўдзе сказаць, ніколі не былі. Хітрыя летувісы падманам напрыканцы 1939 года выманілі ў Сталіна Вільню і Віленскі край, да вайны і пасля вайны вынішчылі квет нацыянальнай беларускай інтэлігенцыі, хуткімі тэмпамі перасялілі і насялілі прыдбаную старажытную сталіцу беларусаў летувісамі. Але ж да Прыпяці яны не дабраліся.

Застаецца загадкай з чыйго языка пяе расейскі пісьменнік Сяргей Залыгін, атаясамляючы сучасную Летуву з Вялікім княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім, або як яшчэ гэтую краіну ведалі — Літоўскай Руссю ?

***Міхась Маліноўскі, праведзейны член Геаграфічнага таварыства, г. Баранавічы.***

**Рэпліка**

## Спадар Бартноўскі "вызначыўся".

Старадаўняя Ліда прымала ў мінулым месяцы ўдзельнікаў абласнога свята народнай музыкі. З усіх гарадоў і раёнаў, акрамя Зэльвенскага, на сцэне выступілі народныя і ўзорныя фальклорныя ансамблі і гурты, асобныя выканаўцы. І без перабольшання можна сказаць: усе калектывы паказалі растучае мастацкае майстэрства. І хіба ўсе адзначаны дыпломамі.

Ды нельга змаўчаць, што свята азмрочылі некаторыя прыкрасці. Першая з іх: агляд пачаўся прыкладна на гадзіну пазней, чым прадугледжвалася праграмай. І не таму, што затрымаліся спевакі і танцоры з Астраўца, Свіслачы ці Смаргоні... спазніліся сталічныя члены журы. Далей — болей. Вядомая рэч, выступленні ансамбляў зацягнуліся. І вось творцы — суддзі сабраліся падводзіць вынікі. "Праз паўгадзіны аб'явілі рашэнне журы" — супакоілі залу. Аднак вердыкт гэты быў агучаны аж праз дзве гадзіны з "гакам". Гавораць, адасобіўшыся ад удзельнікаў свята, спадары начальнікі залішне захапіліся кавай ( ці іншымі напіткамі ?) ды закуссю. А тым часам многія ансамблі, страціўшы цярпенне і не дачакаўшыся жаданых дыпломаў, паехалі дамоў.

Рашэнне журы яго кіраўнік дацэнт Менскага універсітэта культуры В. Бартноўскі зачытаў, да здзіўлення прысутных, на расейскай мове. Ён называў на " великом и магучем" калектыў, а намеснік начальніка абласной управы культуры Міхаіл Храпко па-беларуску паведамляў, на якой намінацыі прысуджаны дыплом і іншае. І ніхто не сказаў нават адно-два словы прабачэння, што свята па віне сталічных чыноўнікаў са спазненнем пачалося, потым зацянулася.

Вось такая ў нас культура. Відаць, спадар Бартноўскі лічыць, што ён зрабіў для Гарадзеншчыны вялікую ласку згадзіўшыся папрацаваць у журы. А што тады казаць аб грамадскай працы ў ансамблях рабочых і калгаснікаў, службоўцаў і пенсіянераў ? Выходзіць, паважаць іх неабавязкова.

*А. Валасевіч.*

# Аб вытоках мовы твораў Ф. Багушэвіча

Да 155-й гадавіны з дня нараджэння паэта - дэмакрата ў "Нашым слове" № 11. 1995 года быў надрукаваны артыкул сучаснага нашага мовазнаўцы У.Содаля "Наша простая мова", у якім аўтар распавядаў пра вывучэнне мовы земляком Ф.Багушэвіча, якая лягла ў аснову творчасці паэта. У мяне узнікла патрэба ўнесці пэўнае ўдакладненне і дапаўненне ў гэтае пытанне.

Мова карэнных жыхароў Віленшчыны мае адметныя дыялектныя рысы. Ашмяншчына, у павет якой калісьці поўнасцю ці часткова ўваходзілі цяперашнія Астравецкі, Смаргонскі, Валожынскі і Іўеўскі раёны, гістарычна заўсёды была непадзельнай часткай Віленскага краю, ваяводства, губерні. Таму моўныя асаблівасці гэтага рэгіёну, думаю, блізкія або падобныя. У. Содаль піша, што ў 1980-90 гадах К.Цвірка і М. Савіч праводзілі абследаванне мовы жыхароў радзімы Ф. Багушэвіча. Паэт нарадзіўся 21 сакавіка 1840 года ў фальварку Свіраны недалёка ад Вільні. Ён вучыўся і па-польску, і па-руску ў Вільні і Нежыне, гаварыў з падабароннымі, як адвакат, па-расейску і ўкраінску на Валагодчыне і Чарнігаўшчыне, але пісаць вершы пачаў на мове роднай зямлі. Тады сучасная беларуская літаратурная мова толькі фармавалася. К.Цвірка робіць выснову, што Ф.Багушэвіч узяў за аснову сваіх мастацкіх твораў мову тутэйшых сялян. Паэт пісаў вершы на той мове, якую чуў з дзяцінства, на мове падвіленскіх сялян, і лічыў яе найбольш беларускай і самай чыстай.

М.Савіч абследаваў Медніцкі і Шумскі апілінкавыя (сельскія) саветы, якія мяжуюць з Ашмянскім і Астравецкім раёнамі. Людзі там засведчылі, што заўсёды гаварылі па-беларуску: і пры Польшчы, і пры Саветах і цяпер у Літве. Жыхары казалі :"У нас такі просты беларускі язык". " Мы палякі, але размаўляем па-просту". "Мы не такія палякі, як у Польшчы... Мы папросту ўсе гаворым, але палякі"."Літоўцаў, літоўскай мовы тут ніколі не быўшы (не было)". Гэта цалкам адносіцца і да Ашмянскага раёна, каталіцкае насельніцтва якога гаворыць па-беларуску, але лічыць сябе палякамі. На самай справе яны каталікі-беларусы. М. Савіч робіць выснову, што беларуская мова адзіная, шырока распаўсюджаная на Віленшчыне, якую ведаюць усе жыхары.

К.Цвірка падмеціў, а мовазнаўцы пацвердзілі, што на Віленшчыне пашыранай асаблівасцю ў гаворцы з'яўляецца замена дзеяслова - выказніка дзеяпрыслоўем. Тут кажуць : у той вёсцы радзіўшыся, ён адсюль паехаўшы, сюды ў прымы прыйшоўшы, што азначае радзіўся, паехаў, прыйшоў. Гэтая дыялектычная рыса, асаблівасць добра адчуваецца ў Ашмянскім раёне і, думаю, ва ўсім нашым рэгіёне. На дачы сусед гаворыць : крукі парабіўшы і ў сцяну ўбіўшы. Адна медсястра сказала: бацька на Украіну паехаўшы, другая — муж знакомой куда-то уехавшы. У паліклініцы чую : медыцынскую карту не перадаўшы, рэцэпт яшчэ не выпісаўшы, загадчык адзялення кабінет закрыўшы, на абед пайшоўшы. У аўтобусе кажуць : масла купіўшы, грошы ўжо заплаціўшы, маршрут Кракоўка надаеўшы, хлеб падаражаўшы, газеты на паўгода выпісаўшы і т.д. Гэтую асаблівасць ашмянскай гаворкі адзначыў у сваіх успамінах "Смерць і салаўі" афіцэр польскай арміі Андэрса, удзельнік баёў пад Монта-Касіна ў Італіі ў 1944 г., беларус Пётр Сыч (родам з-пад Ілы) . Там былі беларусы з Міра, Смаргоні. Дзядзька Лукаш з-пад Радашковіч, каб не калечыць мову Сянькевіча (польскую) гаварыў з ім па-беларуску. А салдат з Ашмян Матулевіч размаўляў ашмянскім дыялектам, за што яго перадражнівалі: "В та пара поведзявшы, а цецярук полецявшы". Гэтыя прыклады сведчаць аб глыбіні каранёў і жывучасці роднага слова, якое жыве разам з чалавекам гадамі і не пакідае яго нідзе.

А яшчэ карэнныя ашмянчукі ўжываюць дзеясловы з няпоўным канчаткам: ходзе, гавора, аўтобус ужо выходзе, з плошчы вылазе ... Такая моўная асаблівасць ярка выражана ў вершы Багушэвіча "Бог не роўна дзеле". У ім ёсць такія выразы: "... не роўна дзеле бог", "Бог сіроты любе", "Адзін ходзе у саеце"..., "вецер ходзе", "віхар гоне". Есць у нашых жыхароў і моўныя лексічныя асаблівасці - больш слоў з польскай мовы.

З біяграфіі Ф.Багушэвіча ведаем, што бацька яго напэўна быў арандатарам фальварка Свірыны. Неўзабаве сям'я пераехала у дзедаў маёнтак Кушляны Ашмянскага павета, цяпер Смаргонскага раёна. Хлопчыку было два ці тры гады. Кушляны сталі для яго назаўсёды роднымі, тут прайшло яго дзяцінства. З гэтага часу жыццё і праца Багушэвіча звязана з Ашмянамі. Не адзін раз тут ён бываў хлапчуком і падлеткам, не мінаў іх і тады, калі працаваў адвакатам у Вільні. Асобныя моманты з жыцця і побыту Ашмян, Смаргоні, Жупран апісаў паэт у вершах і лістах у часопіс "Край". У Жупранах ён пахаваны. Безумоўна, ён чуў, слухаў і ведаў гаворку тутэйшых сялян і паклаў яе ў аснову сваіх твораў. Таму ёсць поўная падстава лічыць: Кушляны і Ашмяншчына больш, чым, "Свіраны і Віленшчына сталі калыскай яго жыцця. Адсюль бяруць усе яго моўныя і духоўныя вытокі. Яны нарадзілі і жывілі яго праз усё свядомае жыццё," — У.Содаль.

Няўміручы заклік паэта "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі !" - стаў святым запаветам усяму беларускаму народу. Ён цяпер, праз сто гадоў, стаў больш актуальным, чым у час напісання.

*Міхась Пузіноўскі, сябра ТБМ. г.Ашмяны*

# Нясвіжскія замалёўкі і роздумы.

Ёсць на Беларусі мясціны, якія захапляюць архітэктурнымі помнікамі, гістарычнымі падзеямі, загадкавымі, прыгодніцкімі сітуацыямі ў далёкім мінулым. І ліку іх і старажытны Нясвіж. У апошнія гады цікаўнасць да гэтага горада значна ўзрасла: тут прайшлі міжнародныя сімпозіумы, утварыўся міжнародны фонд "Нясвіж", часцей можна ўбачыць артыкулы пра Нясвіж у перыядычным друку, калі - нікалі ў выдавецтвах выходзяць кнігі, дакладней сказаць брашуры. А гэта ж горад помнік. У апошняй сваёй працы вядомы мастацтвазнаўца і вучоны Анджэй Цехановіч назваў Нясвіж цэнтрам Сусветнай Культуры на беларускіх землях. З чаго пачынаецца Радзіма — з Нясвіжа. Кожны дзень у любое надвор'е можна сустрэць у Нясвіжы турыстаў з Беларусі і замежжа, як блізкага, так і далёкага.

Асабліва яны гуртуюцца каля велічныў будынкаў касцёла, замка Радзівілаў, ратушы, кляштара бенедыктынак. Мяркую, што ўсім сапраўдным беларусам, і не толькі беларусам, час усвядоміць, што менавіта гісторыя выхоўвае патрыётаў сваёй Радзімы, пашырае веды, выклікае цікаўнасць і павагу да продкаў і родных мясцін. А краязнаўча — гістарычную працу трэба сёння праводзіць у школах кожны дзень.

Вось і трэба з роздумам скарыстаць гэтыя абставіны і хаця б часткова напоўніць крамы кніжкамі для дзетак і настаўнікаў з краязнаўча-гістарычным зместам. Асабліва пра такія гарады Беларусі, як наш Нясвіж, які святкуе ў 1998 годзе сваё 775-годзе. Дапаможам Нясвіжу разам. Талакой. У Нясвіжы жыве і творча працуе цудоўны чалавек, летапісец Нясвіжа, Клаўдзія Якаўлеўна Шышыгіна — Патоцкая.

Гэта дзякуючы ёй пабачыла свет цудоўная кніжачка, якая напісана для шырокага кола чытачоў — назва якой "Чорная Дама Нясвіжскага замка".

Чатыры з паловай стагодзі жыве ў Нясвіжы паэтычная легенда аб Чорнай Даме, якая штоночы абыходзіць замак, стогне, усхліпвае, плача. Пад містычным іменем тоіцца сапраўдная гістарычная асоба — няшчасная польская каралева Барбара Радзівіл, што праславілася сваёю надзвычайнай прыгажосцю і вялікім каханнем. Пра яе расказваюць старажытныя рукапісы, таямнічы вобраз апяваюць паэты, малююць мастакі. "Трыумфальная сваёй прыгажосцю і каханнем" — так ахарактэрызаваў Барбару Радзівіл вядомы польскі даследчык, аўтар вялікай манаграфіі аб гэтай выдатнай жанчыне Збігнеў Куховіч. Барбара Радзівіл засталася ў памяці народа, яе вобраз увайшоў у скарбніцу нацыянальнай культуры.

Змяніліся палітычныя фармацыі, змяніліся звычкі і пакаленні, але і сёння нас вабіць сіла пачуцця і прыгожасць. Колькі згубіла гісторыя культуры эпохі Рэнесанса без Барбары !

У той згадкавай постаці перапляліся матывы кахання і смерці, ёсць у ёй смутак і няшчасце, алеж ёсць так сама Вялікая радасць. З Барбары Радзівіл былі спробы пісаць нават абразы Маткі Боскай. Калі Клаўдзія Якаўлеўна Шышыгіна-Патоцкая ездзіла у Вільню, яна наведала Кафедральны Сабор і ўбачыла там саркафаг Барбары Радзівіл . Каля саркафага былі прыгожыя кветкі. І калі Клаўдзія Якаўлеўна Шышыгіна-Патоцкая спытала, "О тут прыгожыя кветкі! Хто гэта іх прынёс ?" Супрацоўніца Кафедральнага Сабора з лёгкім акцэнтам і вялікім гонарам прамовіла — "Тут у нас круглы год жывыя кветкі, бо гэта наша Нацыянальная гераіня".

*Віктар Ягорчанка. г.Менск.*

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

**Сябар. Прыяцель. Аброць.**

Настала пара падысці і яшчэ да аднага слова, якое з'яўляецца візітнай карткай Беларусі, беларускай нацыі і беларускай мовы. Гэта слова ***сябар***. Такога слова няма ні ў адной славянскай мове. Дакладней, словы аднаго сэнсу ёсць, але такога гучання няма.

Слова, як быццам нічога не абазначае па-беларуску ў змястовым сэнсе. Стаіць асабняком. Мае невялікае гняздо: ***сябрына, сяброўства, сяброўскі, сябраваць***. І так і хочацца спісаць яго ў разрад запазычаных, засталося толькі знайсці мову, з якой яно магло быць запазычана. Для гэтага, нават, далёка хадзіць не трэба. Па - латышску ***сабрыс — сусед***. Беларуская мова цесна ўзаемадзейнічала з балцкімі. Таму запазычанне слова ***сабрыс*** з трансфармацыяй у ***сябар*** цалкам мажлівае. Мажлівае. Але ўсё адбывалася зусім іначай. Гэтае запазычанне магло быць, але яно не адбылося, бо слова ***сябар*** у беларускай мове намнога старэйшае за час мажлівых кантактаў з латышамі, а, калі мы зараз разгледзім структуру ўтварэння гэтага слова, то ўбачым зусім адваротнае. У латышскую мову яно трапіла з беларускай.

Якія ёсць падставы, каб так гаварыць? Аказваецца ёсць. Заглянем, як заўсёды ў санскрыт. Так, тут ёсць слова ***сябар***, дакладней - ***сабар. Сабар*** — *той, хто дае*, ***сабар — дугха*** — той, хто дае малако. Па структуры гэтае санскрыцкае слова складаецца са зваротнай часцінкі ***са (ся)*** і дзяслова ***бару (бяру). Сабар*** — *той, ад каго бяру сабе, той, хто дае мне*. У санскрыце яшчэ не адбылося змякчэння зычных. Таму ***бяру сабе*** ці ***сабе бяру*** трансфармавалася ў ***сабар***. Такім чынам ў першапачатковым значэнні ***сябар*** — гэта той, *ад каго можна было нешта ўзяць, той хто нешта даваў*. Пазней слова некалькі страціла свой наўпроставы канкрэтны сэнс, а набыло больш шырокі і абстрактны — той, хто можа табе дапамагчы, хто жадае табе дабра. У латышскую мову слова перайшло ў значэнні ***сусед***. Сусед пажадана, каб буў дабразычлівы, хоць і не заўсёды так бывае.

Мы не можам знайсці пацверджанне сказанаму ў расейскай мове. Там словы ***друг, дружба*** гэта ад запазычанага з беларускай мовы слова ***другі***. Першапачатковае расейскае ***сам — друг*** абазначала не "***я с другом***", а ***ўдваіх***. Удваіх было лягчэй. І гэты другі стаў звацца другам.

А вось у польскай слова ***przyjaciel***, а таксама беларускае ***прыяцель*** і расейскае ***приятель*** утварыліся аналагічна слову ***сябар***. Мы ўжо ў адным з артыкулаў разглядалі дзеяслоў ***яць***, што на старабеларускай мове абазначаў ***браць***. ***Пры—яць — прыняць, узяць сабе***. ***Прыяцель*** — той ад кага бярэш сабе, той хто нешта дае табе. Як бачна, структура слова аналагічная структуры слова ***сябар***, толькі пабудавана на іншых больш позніх карэннях. Слова ж ***сябар*** — гэта архаічна індаеўрапейскае слова.

Разглядаючы на пачатку артыкула гняздо словаў на ***сябар*** мы адзначылі яго нешматлікасць, але зараз, калі выйшлі на дзеяслоў ***браць***, мы знойдзем вялізарную сетку адгалінаванняў. Напрыклад у гэтае гняздо трапляе слова ***абраць***(поўная форма - ***а-да-браць***), узніклае ад антоніма да слова ***браць*** — ***абраць***. ***Абраць*** дае нам слова ***аброць***, назву элемента вупражы. Адмоўная часцінка ***а*** не надта сказалася на слове. Аброццю бяруць, трымаюць, не аддаюць не адпускаюць каня.

У гэтым жа гняздзе знайходзіцца слова ***аброк***. Яно таксама ад ***абраць*** — антоніма ***браць***. ***Аброк*** — гэта тое, што трэба аддаць. Расейскае ***"обречённый"*** абазначае — прызначаны на аддачу. ***Аброк*** у старабеларускай мове гэта яшчэ і корм жывёлле, які таксама трэбара даваць, задаваць.

Да гэтага ж гнязда слоўаў прыступае і славянска назва авараў — ***абры***. Дaслоўна ***абры*** — гэта ***не сябры, ворагі***. Мабыць авары даставілі шмат непрыемнасцяў нашым прашчурам, калі іх абазвалі такім словам. Прывычнае ж нам слова ***вораг*** прыйшло з яшчэ адным страшным ворагам нашых прашчураў, з ***варагамі***. Пытанне ўзаемадзеяння гэтых словаў будзе разгледжана іншым разам.

*Станіслаў Суднік.*

***Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік***

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 13. 04. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 1100.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.